АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

21 – 27 студзеня 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 50 руб. (50 000 руб.)
№ 3 (248)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 22 студзеня | | Нядзеля, 23 студзеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -9 – -10°C | -11°C | -8 – -10°C | -9°C |
| Удзень | -6 – -7°C | -4°C | -6 – -8°C | -8°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Фестывалю ў Маладзечне не будзе

Кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага ансамбля РБ **Міхаіл Фінберг** пацвердзіў, што традыцыйны маладзечанскі фестываль беларускай песні і паэзіі цяпер будзе праходзіць у розных гарадах краіны. Застаецца толькі здагадвацца, менавіта што садзейнічала такому недарэчнаму рашэнню.

І хаця Фінберг пераконвае, што чуткі пра смерць маладзечанскага фестывалю перабольшаныя, але мерапрыемства больш не існуе. Застаўся рэгулярны гала–канцэрт, на мэце якога, у тым ліку, збор грошай з гледачоў у розных гарадах, але ніяк не "ўцягванне ў сваю арбіту усё большай колькасці прыхільнікаў беларускай песні і паэзіі". Гэта тое самае, калі фестываль з польскага Сопата перанесці, скажам, у Беласток.

Горад фестывалю–2000 неўзабаве будзе названы.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## У вілейскіх кватэрах з'явіцца цяпло?

Не першы год у Вілейцы існуе праблема з падачай гарачай вады. Справа ў тым, што кацельня належыць заводу "Зеніт", які не можа выканаць свае абавязкі ў поўным аб'ёме з–за недахопу сродкаў. Гараджане неаднаразова скардзіліся ў райвыканком. Падобна на тое, што зрухі ў справе будуць.

На апошнім пасяджэнні райвыканкома вырашана: калі ў дзесяцідзённы тэрмін сітуацыя з падачай гарачай вады не палепшыцца, то кацельню перададуць у падпарадкаванне ВА "Камунальнік". Сёння гэты тэрмін заканчваецца.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

МЯДЗЕЛ

## Мядзельскае сала «ссылалі» у Магадан

Разам з раёнам 60 год споўнілася мясцоваму спажыўтаварыству. З гэтай нагоды адбылося свята, на якое запрасілі і ветэранаў кааперацыі.

Былы загадчык нарыхтоўчай канторы **Міхаіл Гардон** успамінаў, што ў былыя часы мядзельскае сала "дабіралася" да Магадана, а бульба – да Далёкага Усходу. Пастаўлялі бульбу нават у спецсталоўку кіраўніцтва справаў ЦК КПСС.

Кожнаму з дзвюх соцень запрошаных на свята падарылі па настольным гадзінніку.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Сяргею Лінгу – усё лепшае

У аўторак раён наведаў прэм'ер–міністр **Сяргей Лінг**. Як звычайна, такому высокаму госцю паказвалі самае лепшае.

Станам спраў у гаспадарках галоўны міністр застаўся задаволены (хаця сітуацыя ў сельскай гаспадарцы ў краіне пагаршаецца штодня). Размаўляў са спецыялістамі, простымі калгаснікамі пра іхнія заробкі, пытаўся, ці нарыхтаваныя кармы для скаціны.

Яшчэ С. Лінг наведаў ААТ "Буддэталі" (маршрут **А.Лукашэнкі** падчас ягонага візіту на Вілейшчыну), а таксама адукацыйна–аздараўленчы комплекс "Надзея–XXI стагоддзе" у вёсцы Будзішчы, дзе вучацца і адпачываюць дзеці з забруджаных радыяцыяй месцаў.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Есці хочацца ўсім

Гаспадаркі раёна для ўтрымання скаціны выкарыстоўваюць да 70% прывазных кармоў. Хутка поўнасцю пяройдуць на "чужыя". Днямі 46 "КамАЗаў" адправіліся па кармы за межы вобласці.

Між тым, валавы збор збожжа ў Беларусі летась склаў 3,6 мільёна тон - гэта на 24% менш, чым было сабрана ў 1998 годзе. Такія папярэднія звесткі БелаПАН паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу краіны. Сабраны ў 1999 годзе ўраджай збожжа больш чым на 50% меншы за аб'ёмы, якія планаваліся першапачаткова. У сельскагаспадарчых прадпрыемствах скараціліся аб'ёмы рэалізацыі жывёлы і птушкі, вытворчасці малака і яек.

Як паведаміла БелаПАН крыніца ва ўрадзе, большасць з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў не маюць абаротных сродкаў; закупачныя цэны на прадукцыю жывёлагадоўлі на працягу некалькіх гадоў не пакрываюць выдаткаў на яе вытворчасць; у крытычным стане знаходзіцца машынна-трактарны парк. Узровень забяспечанасці жывёлагадоўлі кармамі ўласнай вытворчасці на зімовы перыяд 1999-2000 гадоў не перавысіў 52%.

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН,*
*Аддзел інфармацыі.*

## Аб пераносе рабочых дзён у 2000 годзе

МІНСК. Савет Міністраў прыняў пастанову, згодна з якой рабочы дзень з панядзелка, **8 мая, пераносіцца на суботу, 13 мая**, а з панядзелка, **6 лістапада, – на суботу, 11 лістапада** 2000 года.

СІТУАЦЫЯ

# Пуцеправод яшчэ на рамонце.

## Вуліцу Гарадоцкую пераназавуць у «Выратавальную»?

МАЛАДЗЕЧНА. Пуцеправод, "перакінуты" цераз чыгунку па вуліцы Віленскай, на рамонце. Таму і выглядае ён незвычайна. Адзін бок руху пакрыты снегам, і туды, відаць, даўно не трапляла не тое што кола машыны, але і нага чалавека. Па другім – рухаецца аўтатранспарт. Нагрузка на гэты рабочы ўчастак павялічылася ўдвая.

– Такое непажадана, – гаворыць намеснік начальніка маладзечанскай ДАІ **Валерый Русанаў**, – праўда, пакуль сур'ёзных дарожна–транспартных здарэнняў тут не ўзнікала. І "пробак" не ўтваралася.

Калі нешта ўзнікне (прынамсі, проста машына забуксуе – яе ж не аб'ехаць), Стары горад ад цэнтра будзе адрэзаны. Вуліца Гарадоцкая не разлічаная на тое, каб прыняць паток транспарту адной з асноўных гарадскіх магістраляў. Трэба ўлічваць і тое, што вуліцу перасякае чыгуначны пераезд. Таму нават пры слабым руху на дарозе падчас збіраюцца дзесяткі машын.

– Установім крылы, пераскочым і пуцеправод, і пераезд, – жартуюць аўтааматары.

Калі ж сур'ёзней, то небяспечная сітуацыя на пуцеправодзе захаваецца працяглы тэрмін.

Пуцеправод (274 метры даўжынёй) увялі ў эксплуатацыю больш за 25 год таму – у 1974. Апошняе абследаванне аб'екта праводзілі 4 гады таму. Менавіта тады спецыялісты Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі вынеслі заключэнне: пуцеправоду неабходны капітальны рамонт.

Дарога на Мінск, што тая «зебра»: палоска белая – палоска чорная.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Маладзечанскае ВА ЖКГ "Камунальнік" пачало шукаць грошы. Неаднаразова звярталася ў Міністэрства ЖКГ РБ, жыллёва–камунальную асацыяцыю "Мінаблкамунальнік". У выніку рамонт пачаўся мінулым летам, у чэрвені.

Інжынер па арганізацыі дарожнага руху ДАІ **Васіль Шыла**:

– На зіму пуцеправод "Камунальнік" абавязаны быў адкрыць.

– Згодна з праектам, капітальны рамонт разлічаны на 14 месяцаў з тэхналагічным перарывам у 5 месяцаў (зімовы перыяд), – гаворыць начальнік камунальнага аддзела ВА ЖКГ "Камунальнік" **Таццяна Цюшкевіч**, – так што мы ў графіку.

Чаму на зіму ўсё ж не адкрылі дарогу, відавочна. Па праекце прадугледжаная замена гідраізаляцыі і новае пакрыццё, умацаванне адхонаў маста, замена агароджы. З чэрвеня на аб'екце асвоены 21 мільярд рублёў. Знялі слой асфальту на адным баку пуцеправода. Замяніць гідраізаляцыю і пакрыццё да халадоў не паспелі. Сёння адкрыць гэты ўчастак – значыць ператварыць яго ў ледзяную горку. Без знятай старой гідраізаляцыі пуцеправод імгненна прамярзае і вільгаць ператвараецца ў лёд. Лепш ездзіць па вузкай каляіне, "з лёгкім дотыкам" адзін да аднаго, чым свядома ісці на павелічэнне колькасці дарожна–транспартных здарэнняў.

Ёсць яшчэ адна версія, чаму мост зімой не запрацаваў. Быццам бы "Камунальнік" адмовіўся ад новай тэхналогіі пакрыцця, якая дазваляе класці асфальт на мокрую аснову. Гэта значыць, што работы вяліся б да моцных маразоў. Без працяглага перапынку.

Па аптымістычных прагнозах, наступныя дзве зімы палова пуцеправода будзе закрытая. Небяспечная сітуацыя плаўна пяройдзе ў наступны год і, хутчэй за ўсё, яшчэ ў адзін. На шчасце, не было пакуль моцных маразоў. Адпаведна, не ўзнікала абледзянення, пашкоджанняў на трасе, "пробак". Надвор'е транспартнікам усё яшчэ спрыяе.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

На мост, з маста – усюды знакі, усюды забароны.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

## "Народ — гэта чысты аркуш паперы, на якім можна напісаць любы іерогліф"

*Мао Цзэдун.*

У мінулым нумары мы абвясцілі конкурс на лепшае вызначэнне адлюстраванага на фотаздымку прадмета з калекцыі маладзечанкі Вольгі Кірэевай. Першы адказ прыйшоў адразу – у панядзелак.

*Добры дзень, паважаная Вольга!*

*Магу павіншаваць вас з тым, што вы з'яўляецеся ўладальніцай унікальнай рэчы. Гэта, без усякіх сумненняў, бюст беларуса. І вельмі правільна зрабіла ваша сяброўка, калі пры ад'ездзе ў іншую краіну, пакінула гэтую рэч на радзіме. Не заўсёды беларус быў такі, і здаецца мне, што з часам ён усё ж зменіць сваё аблічча, і тады вы зможаце гэты прадмет падарыць сваім сябрам у блізкім ці далёкім замежжы. А цяпер беларус менавіта такі. У гэтым можна пераканацца. Толькі ў такой галаве могуць нараджацца геніяльныя ідэі, якія больш ніхто ў свеце не прыдумае, і толькі на такія вушы вельмі зручна "вешаць лапшу".*

*Вельмі рады быў вам дапамагчы!*

*З павагай Сяргей Старыкевіч, які працуе ў музеі і вывучае аблічча розных людзей у розныя часы.*

# ТэлеТыдзень 24 - 30 студзеня

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## – З якім прадуктам у вас асацыіруецца мінулы год?



*Уладзімір Аўсіевіч,* **інжынер–электрык:**
– З кілбасой. Бо гэты прадукт мне падабаецца, і я ўжываю яго штодня.



*Маша,* **электрамантажніца:**
– З малаком. Гэта найбольш даступны для мяне прадукт.



*Сяргей Корсак,* **радыёінжынер:**
– Мінулы год запомніўся мне перыядычным знікненнем дзіцячага харчавання ў магазінах.



*Глафіра Паўлоўская,* **бухгалтар:**
– Год асацыіруецца ў мяне з тварожнай масай. Праўда, купіць яе можна было толькі ў Мінску, таму часта даводзілася прасіць аб гэтым знаёмых.



*Дзмітрый Пешкур,* **маляр:**
– Натуральна, з хлебам. Бо ён, як вядома, усяму галава.



*Пётр,* **вадзіцель:**
– З бульбай. А як жа інакш, калі яна з'яўляецца другім хлебам?

ФОТААПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЮРЫЙ КАРПІЦКІ.







### ПАНЯДЗЕЛАК, 24 студзеня.

ІМЯНІНЫ. Праваслаўныя: Міхаіла, Фядоса. Каталіцкія: Фяліцыі, Рафала, Францішка.

#### БТ

6.30 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 17.00 с/с, 19.00, 0.20 Новости.
7.10 Доброе утро, Беларусь!
8.15 Резонанс.
9.10 Потребительская корзина.
9.25 «Сегодня с вами...».
9.50 Здоровье.
10.15 «Аистенок» Х/ф.
11.14 «Кофе с ароматом женщины» Сериал.
11.55 «Мир на земле богатырей».
12.10 Теленавигатор.
12.30 Музыкальный салон.
13.15 Страницы истории.
13.30 «Путь корабля» Х/ф.
15.12 «Все любят цирк».
15.45 Немецкий язык Передача 7-я.
16.15 ТВ - школе.
16.35 Авто-парк.
16.45 Премьера песни.
17.10 «А музыка звучит...».
17.30 «Всем спасибо» Д/ф.
18.00 Добрый вечер, Беларусь! В программе: «Разговор в прямом эфире», «Что делать?»
18.25 «Понедельник с «Христофором».
18.40 Спортивные новости.
19.15 Политические диалоги.
19.45 Новые имена.
19.54 «Кофе с ароматом женщины».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама.
21.40 Событие.
22.00 КВН.
23.40 Криминальная хроника.
23.45 Белорусский хит-парад.
23.50 Третий тайм.

#### ОРТ

Перерыв до 13.30.
14.00 с/с, 17.00, 23.20 Новости.
13.30 Программа «Вместе».
14.15 М/с «Охотники за привидениями».
14.45 Что да как.
15.00 Звездный час.
15.30 ...До шестнадцати и старше.
16.00 «Нежный яд» Сериал.
17.25 «С легким паром!».
17.55 Мы и время.
18.45 Погода.
18.50 «Девушки с характером» Сериал.
19.45 Спокойной ночи, малыши!
20.00 Время.
21.00 «Секретные материалы» («X-files»).
22.40 Взгляд.
23.40 Сериал «Майк Хаммер: Огненная буря».

#### РТР

Перерыв до 15.30.
16.00, 18.00, 20.00, 0.00 Вести.
15.30 «Секретные агенты» М/с.
16.20 «Башня».
17.05 Сериал «Жара в Лос-Анджелесе -II».
18.30 «Петербургские тайны» Сериал.
19.25 Сиреневый туман.
20.45 Мелодрама «Благословение».
22.30 «Дежурная часть».
22.45 «Спорт +ТВ».
0.20 Магазин на диване.

#### Культура

7.05, 11.30, 13.30, 19.30, 23.00 Новости культуры.
7.20 После новостей...
7.40 «Лабакан» Х/ф
8.55 Мультфильмы.
9.15 «Влюбленный Д'артаньян» Х/ф. 1-я с.
10.10 Кинопанорама. Встречи.
10.35 «Вихрь цветов» Сериал.
11.40 «Большая любовь Бальзака» Х/ф. 1-я с.
12.35 Открытие озера Лохнесс.
13.45 Мультфильмы.
14.15 «С потолка».
15.00, 17.30 Новости.
15.10 «Жил-был хомяк».
15.35 «На краю тайны» М/ф.
15.45 Шалом.
16.10 Знаменитые замки Европы.
16.35 «Вихрь цветов» Сериал.
17.40 Вижу цель!
18.05 «Академия старинной музыки».
18.35 Власть факта.
18.50 Вечерняя сказка.
19.00 «История любви». Премьера спектакля. Ч. 1-я.
19.50 «История любви». Ч. 2-я.
21.05 После новостей...
21.25 «Влюбленный Д' Артаньян» Х/ф. 1-я с.
22.20 Соло и Тутти.

#### НТВ

5.00, 5.30, 5.45, 6.00, 6.30, 6.45, 7.00, 7.30 «Сегодня утром».
5.15, 7.15 Спорт, погода.
5.20, 6.20 Криминал.
5.35, 7.45 Интересное кино.
5.50, 7.20 Впрок.
6.15 Карданный вал.
6.35 Мультфильм.
6.50 Большие деньги.
7.55 «Она написала убийство».
8.50 М/ф «Бобик в гостях у Барбоса».
9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
9.25 Вчера в «Итогах».
10.45 Куклы.
11.30 «Старый телевизор»: «Нежность к ревущему зверю».
13.35 Криминал.
14.00 Сериал «Улицы разбитых фонарей - II». «Контрабас».
15.35 Сериал «Лоис и Кларк. Новые приключения супермена».
16.25 Впрок.
16.40 Интересное кино.
16.50 Сериал «Любовь и тайны Сансет Бич».
17.40 Криминал.
18.40 Герой дня.
19.00 «Скорая помощь».
19.55 Совершенно секретно.
21.45 Двое.
22.30 «Итого».
22.55 Сегоднячко.
23.35 Сегодня в полночь.
23.55 «Антропология».

#### ТНТ

6.00 «Смотри, как они растут».
6.30 «Приключения Папируса».
7.00 Сериал «Нэнси Дрю и ребята Харди».
7.30 «На свежую голову».
8.00 Сериал «Верность любви».
9.00 Из жизни женщины.
9.25 Сонник.
9.30 Сериал «Диагноз: убийство».
10.35 Сериал «Сиквест».
12.30 М/с «Таинственный мир Санта-Клауса»
13.00, 22.45 Телемагазин.
13.30 Сериал «Сеньора».
14.30 Сериал «Незабываемая».
15.30 «Мой любимец и я» 1-я с.
16.00 «Приключения Папируса».
16.30 Сериал «Нэнси Дрю и ребята Харди».
17.00 Из жизни женщины.
17.30 Неизвестная Россия.
18.00 Мировой футбол.
18.25 «Глобальные новости».
18.30 Сериал «Диагноз: убийство».
19.30 Европейский футбол на ТНТ.
20.30 Драма «Сатана».
23.00 «Глобальные новости».
23.05 «Лучшие матчи НХЛ».
0.15 Неизвестная Россия.

#### ТВ–6

5.50, 12.05 День за днем.
7.40, 17.05 Дорожный патруль.
8.00, 12.00, 14.00, 19.00, 22.00 Новости.
8.10 Кинотеатр ТВ-6: «Шерлок Холмс. Видный холостяк».
10.00, 22.15 ЦитаДЕНЬ.
10.10 «Скандалы недели».
10.35 «Спасибо за покупку!»
10.45 «Территория ТВ-6».
11.15 Новости спорта.
11.45 «Спасибо за покупку!»
14.05 «Спасибо за покупку!»
14.30 « Сериал «Просто Мария».
15.20 «Краткий курс».
15.35 «Знак качества».
15.45 «Спасибо за покупку!»
16.05 « Сериал «Грейс в огне».
16.35 Диск-канал.
17.30 Сериал «Последний миф».
18.05 «Сериал «Багряный первоцвет».
19.25 «Место встречи».
19.45 «Вы - очевидец».
20.40 Сериал «Пси-фактор».
21.40, 23.35 Дорожный патруль.
22.20 Сериал «Грейс в огне».
22.45 Те Кто.
23.00 Диск-канал.

#### ТВ–ЦЕНТР

5.00, 7.15 "Настроение".
7.00, 10.00, 17.00, 19.00 События.
8.00 "Секретные материалы".
8.50 "Петровка, 38"
9.00 "Узурпаторша".
10.15 Телеканал "Дата".
ПРОФИЛАКТИКА С 11.00 ДО 17.00
17.15 "Деловая Москва".
17.30 "Просто Россия".
18.00 "Навсегда" Сериал.
18.45 Вечерняя сказка.
19.55 Х/ф "Непутевая".
21.45 "Петровка, 38".
22.00 События.
22.10 "Политбюро".
23.05 Сериал "Омерта".

#### АСТ

5.00 Мультфильмы.
5.30, 8.30, 11.30, 14.30 «Факт».
5.45 «Манекенщица» Сериал.
6.45 Экономика для вас.
6.55 Сериал «Реки и каналы».
7.25 Евразийский телефорум–99.
7.55 «Галерея знаменитостей XX века».
8.00 «Маленький бродяга» Сериал.
8.45 «Мечта моя» Сериал.
9.40 «Только для женщин».
10.05 «Документальный экран».
10.35 Музыкальная мозаика.
10.55 Целебные советы.
11.00 М/ф «Крот и часы».
11.40 «Мужские заботы».
12.10 «Счастье» Сериал.
13.05 Сериал «Реки и каналы».
13.35 «Чудесные уроки».
13.55 Одиссеи животных.
14.00 «Маленький бродяга» С–л.
14.40 Вояж без саквояжа.
14.55 Евразийский телефорум–99.
15.25 Х/ф «Секретный фарватер» 3-я с.
16.40 Музыкальная мозаика.
16.55 «Галерея знаменитостей XX века».
17.00 Алло, Россия!
17.30, 20.30, 23.30, 2.30 «Факт».
17.45 «Хищник» Сериал.
18.45 «Точка зрения».
19.00 «Люди искусства».
19.55 Прекрасный мир моды.
20.00 Спорт без границ.
20.45 «Вас приглашает С.Лазарева».
21.10 Экономика для вас.
21.20 «Манекенщица».
22.20 «Мировые сокровища культуры».
22.55 «Галерея знаменитостей XX века».
23.00 «Только для женщин».
23.45 «Мечта моя» Сериал.
0.45 «Точка зрения».
1.00 «Люди искусства».
1.55 Одиссеи животных.
2.00 «Мужские заботы».
2.45 «Хищник» Сериал.
3.45 Вояж без саквояжа.
4.00 «Документальный экран».
4.30 Музыкальная мозаика.
4.55 Прекрасный мир моды.

#### ЕВРОСПОРТ

9.30 Санный спорт.
10.00, 14.30, 23.30 Теннис.
20.30 Футбол.
22.30 Ралли.
0.00 Футбол. Евроголы.
1.30 Автогонки на льду.
2.00 Санный спорт.

#### 8 канал

17.45 Телемагазин.
18.00 Программа К. Копленда.
18.30 Музыкальная программа.
18.35, 19.40 «Хорошие новости».
18.40 «8 самых...».
18.45 «Си-Ди Топ–8»
18.50, 19.50 «Вопрос, конечно, интересный».
19.00, 20.00 «Английский час».
19.10, 20.10 «Ой, кто это?»
19.20, 20.20 «История Александра Суворова».
19.30 Несуразный клип.
19.45 «К-видео Топ–8».
20.15 «Авто».
20.30 «Вечарніца».
20.45 Телемагазин.
20.50 Сериал «Полицейские Лос-Анджелеса».
21.50, 23.40 Погода.
22.00 Том Круз в х/ф «Неосуществленный проект».
23.45 «Картинки с выставки».

*РТР 20.45 Мировой бестселлер на экране.*
**«БЛАГОСЛОВЕНИЕ»**
Мелодрама по роману Даниэлы Стил. Самое великое чудо - рождение ребенка. Но, к сожалению, счастье быть родителями доступно не всем. Иногда это требует определенных жертв. Об этом - в историях о трех супружеских парах. В ролях: Г.Картерис, А.Паул, С.Бало, Б.Гринвуд. США

*НТВ 11.30*
**«НЕЖНОСТЬ К РЕВУЩЕМУ ЗВЕРЮ»**
2-я часть. Киноповесть о летчиках-испытателях. Режиссер - В.Попков. В ролях: И.Ледогоров, Г.Шкуратов, П.Буткевич, Ю.Визбор, В.Сафонов. СССР, 1982 г.

*Культура 21.25*
**«ВЛЮБЛЕННЫЙ Д'АРТАНЬЯН»**
1-я серия. Историческая комедия. Действие фильма происходит через 15 лет после времени действия романа А.Дюма «Три мушкетера» и за 5 лет до «Двадцати лет спустя». Режиссер - Я.Андрэн. В ролях: Н.Сильбер, А.Флоран, П.Робер, Б.Гарсэн. Франция

**Обозначения в программе:**
с/с — с сурдопереводом; м/с — мультсериал; м/ф — мультфильм; х/ф — художественный фильм; с–л — сериал; ч. — часть; с. — серия; д/ф — документальный фильм.

